Кацярына Кункевіч

## КАЛІ ЗАСМЯЮЦЦА ДЗЕЦІ

*Калі засмяюцца*
*Шчаслівыя дзеці,*
*Становіцца ўсё*
*Цікавейшым на свеце:*

*Прыгожа плывуць у блакіце хмурынкі,*
*Прыгожа шапочуць у лесе ялінкі,*
*Прыгожа спяваюць над намі шпакі,*
*Прыгожа туманы плывуць да ракі.*

*Калі засмяюцца*
*Шчаслівыя дзеці,*
*Становіцца ўсё*
*Весялейшым на свеце:*

*Вясёлае сонейка ранкам іх будзіць,*
*І ветрык вясёлы ім тварыкі студзіць,*
*Вясёлыя людзі жывуць побач з імі,*
*І сны весялейшыя дружаць з малымі...*

*Калі засмяюцца*
*Шчаслівыя дзеці,*
*Становіцца ўсё*
*Самым добрым на свеце.*



**Іван Сіняўскі**

## Макавая кветка

Кожную раніцу, як толькі сонца параўняецца з вершалінай ліпы, што стаіць у канцы агарода, Тамара бярэ збан з малаком і нясе яго бабцы Кацярыне. Парнае малако яшчэ цёплае. У бабкі няма каровы, а старой жанчыне цяжка абысціся без малака.

Бабка жыве не далёка і не блізка. Каб трапіць да старой, трэба спачатку ісці каля крыніцы, з якой выцякае ручай, потым ля агарода бабкі Жукоўскай і, нарэшце, праз густыя зараснікі алешніку.

Тамара раней пабойвалася зараснікоў, бо не раз сцяжынку, па якой ішла, перабягаў, задраўшы ўгору востры лычык і гучна пыхкаючы, калючы вожык. А аднойчы дзяўчынку вельмі напалохала ліса з маленькімі, старчком настаўленымі, чорнымі на канцы вушамі і касмылямі поўсці на аблезлым жываце.

А быў і такі страх. Ішла неяк Тамара праз зараснікі, кветкі-жаўтушкі разглядала і раптам пачула, што следам за ёй нехта крочыць. Неўзабаве пад нагамі ў невядомага трэснула сухая галінка. У дзяўчынкі аж пахаладзела ўсярэдзіне. Яна спынілася на момант, затым кінулася ўцякаць. Але і той, хто быў у зарасніках, таксама пабег. Гэта яшчэ больш напалохала Тамару. Дзяўчынка ляцела з усіх ног.

А як скончыліся зараснікі і Тамара ўбачыла таго, хто яе напалохаў, дык ёй смешна стала. Гэта было белапысае цяля.

Як ні дзіўна, але з той пары дзяўчынка перастала баяцца зараснікаў. Проста на іх не звяртала ўвагі. Затое яна не магла раўнадушна прайсці каля агарода бабкі Жукоўскай, дзе ля самай сцяжынкі на градзе рос мак. Крочыць Тамара сцяжынкай, а рознакаляровыя макавыя кветкі ветліва ківаюць ёй і нібы кажуць: „Вітаем цябе, Тамарачка!“ Дзяўчынка махае рукой, усміхаецца.

Аднойчы Тамары кінулася ў вочы незвычайная кветка маку. У ёй спалучалася некалькі колераў — і белы, і сіні, і зялёны, і карычневы. Кожны з іх праходзіў уздоўж пялёсткаў вузкай палоскай, і ад гэтага пялёсткі нагадвалі вясёлку. Кветка была вялікая, махрыстая. Тамары здавалася, што і пахне яна не так, як іншыя. Аднак дзяўчынка да кветкі не падышла. Яна ж расце на агародзе бабкі Жукоўскай. А ў бабкі вялікія слязлівыя вочы, худы твар з глюгатым, як у бабы-ягі, носам і белая-белая галава. Тамара баіцца бабкі Жукоўскай. І на хаду любуецца кветкамі.



У невялікай хаце, страха якой нарасла мохам, бабка Кацярына пераліла малако ў свой збан, а ў Тамарын паклала некалькі грушсапяжанак.

— Гэта табе гасцінца, унучка, — сказала старая, ківаючы сівой галавой.

Назаўтра Тамара зноў не магла адвесці вачэй ад незвычайнай кветкі. Асабліва чароўнай яна была раніцой, калі пялёсткі абсыпала буйная раса. На сонцы раса пералівалася іскрыстымі кропелькамі, а сама кветка нібы свяцілася з сярэдзіны. Дзяўчынцы вельмі хацелася пастаяць, добра наглядзецца на дзівосную кветку. Але тут яна ўспомніла пра бабку Жукоўскую і прыспешыла крок. А калі вярталася назад, спынілася. Нейкі час здалёк любавалася кветкай. Затым падышла да яе і нагнулася, каб панюхаць. І ў гэты момант пачула:

— Сарваць хочаш?

Ад нечаканасці Тамара выпусціла макавую кветку і азірнулася. Непадалёк стаяла бабка Жукоўская. Тамары здалося, што восьвось сэрца ў яе грудзях захлынецца. У дзяўчынкі выпаў з рук збан і разбіўся. Грушы рассыпаліся.

Тамара з усіх ног кінулася ў зараснікі. Там і знайшла яе маці. Дзяўчынка сядзела на купіне пад альховым кустом, сашчапіўшы рукамі вострыя калені.

— Дурненькая, чаго ж ты дадому не ідзеш? — з лёгкім папрокам сказала яна Тамары.

*(Працяг на стар. 7)*

**Віталі Вольскі**

# Заморскі госць

З некаторага часу на двары ў Язэпа Хведашчэні пачалі адбывацца дзіўныя рэчы. Нехта краў яйкі з-пад кур. Потым знікла немаведама дзе малое кураня. Куры былі так напалоханы, што не хацелі ісці ў куратнік. Цяжка было загнаць іх туды нанач.

Нарэшце прапаў шчупак, якога злавіў сам Язэп у рэчцы. Шчупак ляжаў на лаўцы каля адчыненага акна. На двор ніхто не заходзіў, а кошкі ў Язэпа няма. Шчупак, праўда, не быў вялікі. Страта, вядома, нязначная, але ўсё ж такі крыўдна! Галоўнае, што сам злавіў!

За дзень перад гэтым нехта зняў талерку з міскі, якая стаяла на стале, і выпіў малако.

— Што за чартаўшчына! — дзівіўся Язэп.

Дзеці Язэпа, Міхась і Лена, сцвярджалі, быццам бачылі неяк вечарам на страсе пуні нейкую дзіўную істоту.

Міхась казаў, што ў яе былі рукі, як у чалавека, толькі чорныя ды маленькія, а Лена аж прысягала, што бачыла ў яе на галаве чорныя рожкі, а на твары чорную маску.

— Гэта мусіць нячыстая сіла, — катэгарычна заявіла старая бабка Хрысціна і адразу завойкала: — Божа мой, няўжо гэта чорт з балота да нас унадзіўся?

Сам Язэп быў чалавек бывалы, цвярозага, практычнага розуму і ў нячыстую сілу не верыў.

— Чорт не чорт, — пярэчыў ён бабцы, — але чорт яго ведае, што гэта такое.

Не верылі ў нячыстую сілу, вядома, і Міхась з Ленай.

— Навошта чорту шчупак, малако і курыныя яйкі? — смяяліся дзеці.

Такім чынам бабчыну версію ніхто не падтрымаў. Яна была рашуча адкілена як ненавуковая. Але хто ж гэта мог быць? Хто злодзей?

На ўсякі выпадак Язэп абследаваў куратнік і знайшоў дзірку, якая была працярэблена ў страсе. Далейшыя пошукі нічога не далі.

Сабак на двары ў Язэпа не было, і гаспадар узяў на некалькі дзён Жука ў суседа.

На світанні ўсе ў хаце прачнуліся ад жудаснага брэху. Выскачылі на двор, і там перад Язэпам і яго сям'ёй разыгралася незвычайная сцэна.

Каля пуні стаяў, натапырыўшы шэрсць і выгнуўшы спіну, як кот, невядомы зварок, ростам з лісіцу. Пушысты хвост яго тырчаў угару, як комін.

Стаяў гэты зварок хоць і ў ваяўнічай позе, але вельмі спакойна, не выказваючы ніякіх адзнак страху. З вялікай вытрымкай і нават з цікавасцю сачыў ён за паводзінамі сабакі, які шалёна брахаў і скакаў перад ім, але не адважваўся кінуцца на незнаёмца.

Цяпер кожны мог пераканацца, што гэта не „нячыстая сіла" і не „чорт з балота". Што датычыцца чорных „рожкаў", якія нібыта бачыла Лена, то гэта былі не рожкі, а чорныя натапыраныя вушы.

На брэх Жука прыбеглі яшчэ два сабакі. Натхнёны з'яўленнем дапамогі, Жук перайшоў да актыўнага наступлення і кінуўся на

звярка. Той спакойна чакаў. Толькі шэрсць на яго спіне і плячах узнялася яшчэ больш, як шчаціннe. Ён ціха фыркаў.

Калі ж сабака наблізіўся, звярок раптам лёг на спіну, выставіўшы наперад усе чатыры лапы. Жук спыніўся над ім у нерашучасці. У тую ж хвіліну звярок учапіўся пярэднімі лапамі за шыю збянтэжанага сабакі, а заднімі за жывот і бакі і пачаў яго кусаць.

Перш чым Жук паспеў разабрацца ў сітуацыі, звярок апынуўся на спіне свайго ворага. Ухапіўшыся пярэднімі лапамі за вушы сабакі, незнаёмец кусаў яго зверху за шчокі і морду.



Пачуўся жаласны енк Жука, поўны болю і роспачы. Астатнія сабакі, спалоханыя віскам свайго сябра, кінуліся наўцёкі. За імі пабег з двара і Жук з дзіўным пушыстым седаком на спіне.

Калі сабака параўняўся са старой ліпай, што расла каля плота, невядомы звярок саскочыў з Жука і ўскарабкаўся на дрэва. Схаваўшыся там у густым лісці, ён звесіў галаву ўніз і насмешліва глядзеў услед Жуку, які ляцеў па вясковай вуліцы, узнімаючы клубы пылу.

Язэп з дзецьмі падбеглі да дрэва. Звярок асцярожна пайшоў па суку, трымаючы выцягнуты хвост крыху ўгору. Дзеці сачылі за кожным яго рухам, як зачараваныя. Раптам звярок павіс на адных толькі пярэдніх лапах, як на руках. Перабіраючы імі, нібы акрабат, ён спрытна дабраўся да тонкага канца сука, а там, разгайдаўшыся і ўзмахнуўшы хвастом, перакінуўся на суседняе дрэва.

Дрэў паблізу больш не было. Звярок спусціўся па ствалу ўніз, перабег цераз лугавінку і знік у лесе.

Усё гэта адбылося ў адно імгненне, але дзеці паспелі заўважыць, што ў звярка пушыстае футра шэра-жаўтаватага колеру, а на хвасце некалькі шырокіх цёмных кольцаў.

— Хто ён такі? — не адступаў ад бацькі Міхась.

— Не, ведаю, — прызнаўся Язэп. — Ніколі гэтакіх не бачыў. Гэта не тхор, не куніца, не ліса, не барсук, а больш мне ніхто такі невядомы.

Доўга яшчэ ў сям'і Язэпа Хведашчэні абмяркоўвалася гэтае здарэнне. Доўга пільнавалі дзеці незнаёмага звярка на двары, каля пуні, але дарэмна. Пасля сутычкі з сабакам начныя візіты невядомага госця спыніліся.

**(Працяг у наступным нумары)**



# ПАГЛЫБЛЯЙ



# СВАЕ ВЕДЫ



## БАКТЭРЫІ

У свеце існуе бязлікае мноства бактэрый. Яны ўсюды: у вадзе, у паветры, у зямлі. Толькі ў чатырох кроплях вады бактэрый столькі — колькі складае ўсё насельніцтва зямнога шара. Размнажваюцца бактэрыі вельмі хутка — за шэсць гадзін адна бактэрыя дае паўмільёна патомства.

### Разведчыкі нетраў

Ёсць бактэрыі, якія жывуць з нафты і нафтавых газаў. Дзякуючы гэтым бактэрыям геолагі знаходзяць глыбока ў зямлі нафту. Яны бяруць пробы зямлі. І калі ў ёй ёсць такія бактэрыі, значыць ёсць і нафта.

### Жывыя фільтры

Сцёкі з прамысловых прадпрыемстваў вельмі брудзяць рэкі, прыносяць вялікую шкоду народнай гаспадарцы. Для ачышчэння рэк ад шкодных сцёкаў вучоныя вырашылі выкарыстаць бактэрыі, якія жывяцца фенолам. Новы спосаб прымяняецца для ачышчэння сцёкаў коксахімічных заводаў.

### Падпальшчыкі

Бактэрыі выдзяляюць цяпло, якое выкарыстоўваецца для абагравання цяпліц. Складзенае ў стог сена можа само загарэцца. Так, напрыклад, у Швейцарыі ў 1925 годзе было занатавана 230 такіх пажараў.

Самі загарэцца могуць складзенае ў кучу мокрае зерне, торф, анучы і г.д. Усё гэта справа бактэрый.

### Жывыя светлячкі

На рыбе, мясе часам паяўляецца маса няшкодных бактэрый, якія выглядаюць як светлячкі. Калі калоніі гэтых бактэрый перанесці на спецыяльную аджыўку (агар), дык яны разрастуцца ў чыстую культуру, якая выдзяляе зеленавата-блакітнае святло. Іменна так разводзіў бактэрыі-светлячкі нямецкі вучоны Э. Дзюбуа-Рэймон. Ён пісаў, што яму ўдалося асвятліць вялікі пакой святлом, падобным да месячнага. Вечарам пры гэтым святле можна было чытаць.

### На службе здароўя

Як вядома, антыбіётыкі (пеніцылін, стрэптаміцын і інш.) сваім згубным дзеяннем на хваробатворчыя бактэрыі ратуюць жыццё мільёнам людзей. Польскія вучоныя пранаглядалі ўплыў антыбіётыкаў на 50 відаў бактэрый. Сцверджана, што ўздзеянне антыбіётыкаў слабее пры бескантрольным іх прымяненні. Бактэрыі прыстасоўваюцца да лякарства.

### Хто што любіць

Японскі вучоны адкрыў групу глебавых бактэрый, якія не баяцца ядахімікатаў. Ад монафторвоцатнай кіслаты гінуць мышы, 0,7 мг гэтай атруты хопіць, каб атруўся чалавек на смерць, але гэтая кіслата з'яўляецца пажыўкай для некаторых бактэрый. Сапраўды, хто што любіць.



## Пазнаёмімся

Іра Аляксеюк, вучаніца восьмага класа, в. Вулька Нурэцкая, пошта 17-333 Тымянка, Беластоцкае ваяводства.

* ✲ *

СССР, г. Ростов-на-Дону, пос. Мясникован, ул. Каменнобродская 76, Сергеевой Елене. Дзяўчынка вучыцца ў пятым класе, цікавіцца прыродай, збірае паштоўкі з кветкамі.

* ✲ *

СССР, 373250, г. Баку, пос. Хурдалан, 27 квартал, дом 2б, блок 3, кв. 33. Мемедовой Гюльнаре. Дзяўчынка вучыцца ў пятым класе, займаецца мастацкай гімнастыкай і музыкай.

* ✲ *

СССР, г. Шахты, Ростовской области, ул. Советская, д. 252, кв. 65. Короленко Лене. Дзяўчынка вучыцца ў трэцім класе, збірае паштовыя маркі і любіць маляваць.

* ✲ *

СССР, 346520, г. Шахты, Ростовской области, переулок I Милиционный, дом 65. Дахневской Оле. Дзяўчынка вучыцца ў шостым класе.

* ✲ *

Аз. ССР, г. Баку, пос. Хурдалан, 27 квартал, дом 1, кв. 42. Цаплевой Ане. Дзяўчынка вучыцца ў пятым класе.

* ✲ *

Аліцыя Прычыніч, 17 гадоў, 17-200 Гайнаўка, вул. Лесьна 10а.

* ✲ *

СССР, 344053, г. Ростов-на-Дону 53, пос. Мясникован, ул. Лениноканская, дом 33. Марковой Лене, вучаніца 6 класа.

*Працяг са стар. 3)*

## Макавая кветка

— Я бабкі Жукоўскай спалохалася, — прызналася дзяўчынка.

— Чаго?

— Я, мама, хацела макавую кветку панюхаць, а яна: „Сарваць хочаш?“ У мяне і збан выпаў...

— Дзівачка... Бабка Жукоўская сама нарвала табе макавых кветак, а ты ўцякла ад яе...

— Значыць, бабка Жукоўская добрая?

— Добрая.

— А чаму ў яе слёзы з вачэй сыплюцца? — запытала дзяўчынка.

— Таму, дачка, што яна вялікае гора перанесла.

— Якое гора?

— У вайну фашысты спалілі шасцёра яе дзяцей. І самую б спалілі. Але ў той дзень яна павезла партызанам жыта малоць. От і жыць засталася. А дзеці яе пагарэлі. Жывымі кідалі іх у агонь...

— Мама, вайна — гэта вельмі страшна?

— Вельмі, дачка.

— Я не хачу вайны, — ціха прамовіла дзяўчынка.

— І я не хачу.

— І бабка Кацярына не хоча, — дадала дзяўчынка.

— І бабка Жукоўская...

Калі яны вярталіся дадому, бабка Жукоўская падала Тамары букет макавых кветак. Яны былі такія ж чырвоныя, як і бант у светлых валасах дзяўчынкі.

— Кветка ты мая макавая, — ціха праказала маці.

# ВЯСЁЛЫ КУТОЧАК

* ✲ *

Інжынер мерае трасу на будучую чыгунку. Якраз на яго дарозе знаходзіцца загарода гаспадара. Інжынер просіць адчыніць вароты, каб мог правесці памеры. Але гаспадар гаворыць:

— Адзін раз вам адчыню, але не думайце, што я буду стаяць тут і пільнаваць, каб адчыняць вароты на кожны поезд.

* ✲ *

— Дзе твой берэт, Коля?

— Хлопцы забралі, каб ім у футбол гуляць.

— А ты што рабіў?

— Я на варотах стаяў.

* ✲ *

У адным з высокіх дамоў на дзвярах ліфта (вінды) паявілася паперка з паведамленнем: „Ліфт у рамонце. Найбліжэйшы ліфт знаходзіцца ў суседнім доме“.

* ✲ *

— Што ў вас баліць? — пытаецца доктар у пацыенткі.

— Нагу выкруціла, — адказвае тая.

— Дзе? — просіць паказаць доктар.

— У Гайнаўцы, калі да аўтобуса бегла.

## АДГАДАНКА




*На малюнку бачыш тры пустыя кружкі. А вакол — кружкі з фрагментамі малюнка. Якія з гэтых васьмі кружкоў будуць падыходзіць, каб наклеіць іх у вызначаныя месцы на малюнку?*

Адрас рэдакцыі: „Зорка“, 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1.